 

# БОН НА СТАРЫХ ПАЗІЦЫЯХ

У час апошніх чатырох тыдняў, якія мінулі ад выбараў у ГФР, у атмасферы палітычных торгаў і ўзаемных зняваг вырашаліся лёсы будучай кааліцыі і палітыкі заходнегерманскага ўрада. Зразумела, што ніхто з нас не надзеяўся, каб у бонскай палітыцы наступілі нейкія прыкметныя змены, хаця кіруючая партыя ЦДУ і атрымала меншую колькасць галасоў. Урэшце ніводная з усіх трох партый, якія ўвайшлі ў склад Бундэстага (хрысціянскія дэмакраты, сацыялдэмакраты і свабодныя дэмакраты) нічога такога не прапаведвала, што магло б адрозніваццa ад дагэтуляшняй рэакцыйнай палітычнай лініі Федэральнай Рэспублікі.

І таму таксама ўсе спрэчкі, якія працягваюцца ўжо цэлы месяц не датычаць асноўных пытанняў, а толькі спраў, звязаных з падзелам даходных пасад. ЦДУ хацела б стварыць урад без ніякай дапамогі. Аднак гэтага не ў стане зрабіць, таму што страціла абсалютную перавагу ў парламенце. Таму зараз намагаецца знайсці найменш патрабавальнага і прымірэнча настроенага партнёра. Кааліцыя з сацыялдэмакратамі была адкінута, таму што яны маюць надта ж вялікія апетыты. Не маючы большага выбару, ЦДУ прымушана была звярнуцца да свабодных дэмакратаў. Іх кіраўнікі адразу зразумелі, што апынуліся ў цэнтры ўвагі, і таму смела выступалі са сваімі прапановамі, абумаўляючы імі сваё прыступленне да кааліцыі: яны патрабавалі кааліцыі без Адэнаўэра. Гэты факт вельмі знерваваў канцлера, і ён вырашыў інакш паступіць.

— Не хочаце мяне, дык я дагаваруся з сацыялдэмакратамі, — адзначыў ён і пайшоў да іх таргавацца. А сацыялдэмакраты не маюць празмерных амбіцый і ўжо ў час выбараў паказалі сябе староннікамі кааліцыйнага ўрада, у склад якога ўвайшлі б усе партыі. І вось Адэнаўэр гэта ўмела выкарыстаў. Ён праводзіў з імі размовы не дзеля дасягнення паразумлення, а толькі дзеля таго, каб зламаць супрацоўленне свабодных дэмакратаў, і трэба адзначыць, што васьмідзесяцісямігадоваму старэчы надта ж пашанцавала. Ён дабіўся таго, што яшчэ перад абнародваннем заяўлення аб размовах ЦДУ — СПД кіраўнік Свабоднай дэмакратычнай партыі др Мендэ ўзяў назад усе свае засцярогі адносна Адэнаўэра і яго замежнай палітыкі. Ён ізноў прыступіў да размоў і даслоўна заявіў: «ФДП з'яўляецца сугуба дэмакратычнай партыяй (чытай: кансерватыўная), проатлантычнай і проеўрапейскай... не намервaецца праводзіць хісткай палітыкі і ведае, што захаванне таго, што засталося ад свабоднай Еўропы, звязана з Атлантычнай садружнасцю.» Дакладна тое ж самае паўтарае Адэнаўэр, да якога ізноў вярнуліся добры настрой і запал. Урэшце ФДП мала тут выйграла. Яна атрымала ў новым кабінеце другарадныя месцы. Галоўныя міністэрствы: замежных і ўнутраных спраў, гаспадаркі, а таксама абароны засталіся ў руках ЦДУ і гэтых жа самых палітыкаў. А апошнія падзеі яшчэ лішні раз пацвердзілі, што ГФР захавала сваю папярэднюю палітычную лінію. Непрызнаванне існавання ГДР, вета ў сувязі з мірным трактатам і ўзбраенне Бундэсверы застаюцца і надалей асновамі палітыкі ГФР.

УЛАДЗІМІР ЛАЗІНСКІ

# ШТО НОВАГА ДАВЕДАЛІСЯ МЫ АБ СУСВЕЦЕ?

## (АГЛЯД АСТРАНАМІЧНЫХ З'ЯЎ)

**Сёлеташні год насычан вельмі цікавымі астранамічнымі з'явамі. Але найбольшай увагай астраномаў карысталіся Сонца і Венера.**

### 1. РАЗВЕДКА СОНЦА З САМАЛЁТА

ПРАЦЭСЫ, што адбываюцца на Сонцы, аказваюць велізарны ўплыў на стан атмасферы Зямлі. Яны выклікаюць спыненне радыёсувязі, магнітныя буры і палярныя ззянні. Адно з цікавых сонечных утварэнняў — яго карона. Аднак з-за вельмі невялікай яркасці назіраць яе можна толькі ў час поўнага сонечнага зацьмення.



На станцыі Астранамічнага савета Акадэміі навук СССР. Падрыхтоўка апаратуры для назірання за палётам і здымкі новага спадарожніка.

15 лютага 1961 года адбылася адна з рэдкіх з'яў прыроды — поўнае сонечнае зацьменне.

Якія ж папярэднія вынікі гэтых назіранняў? Многа цікавых звестак, у прыватнасці, аб змяненні палярызацыі сонечнай кароны ўздоўж спектра далі вынікі назіранняў з самалёта «Ту—104». Важныя даныя атрыманы пры дапамозе фота- і кіназдымак. Пры фатаграфаванні супрацьлеглай Сонцу вобласці неба ў спектрах свячэння дзённага неба выяўлены лініі натрыю, кіслароду і іншыя. Вучоным удалося ў час зацьмення зазняць параўнаўча далёкія вобласці кароны — да 15 градусаў Сонца.

У разгар лета Сонца зноў звярнула на сябе ўвагу астраномаў. 9 ліпеня з-за ўсходняга краю на бачную паўсферу Сонца выйшла актыўная група плям, у якой 18 ліпеня назіралася гіганцкая ўспышка. Яна працягвалася 1 гадзіну 22 мінуты. Сапраўдная плошча яе складала 7 мільярдаў 650 мільёнаў квадратных кіламетраў, у той час, як паверхня ўсёй Зямлі роўная 510 мільёнам квадратных кіламетраў. Успышка выклікала моцныя магнітную і інасферную буры, а таксама ўзмацненне інтэнсіўнасці касмічнага выпраменьвання.

Тое, што ўспышка знаходзілася на краі Сонца, а не ў цэнтры яго бачнага дыска, крыху аслабіла яе ўздзеянне на Зямлю.

### II САКРЭТ СВЯЧЭННЯ ВЕНЕРЫ

Не менш цікавым аб'ектам для назірання была Венера. Гэта ў першую чаргу тлумачыцца тым, што 12 лютага 1961 года ў Савецкім Саюзе была запушчана аўтаматычная міжпланетная станцыя па траекторыі да планеты Венера. Тым самым быў пакладзен пачатак міжпланетнай трасы.

Праведзеная ў СССР радыёлакацыя Венеры дзякуючы магутным перадатчыкам, вялікім антэнам і адчувальным прыёмнікам дазволіла надзейна зарэгістраваць адбітыя ад яе радыёхвалі.

Магутнасць радыёхваль, якія дасягалі паверхні Венеры, нягледзячы на велізарную адлегласць да яе, дасягала 15 ват. Гэта дало магчымасць вымерыць адлегласць да Венеры з вялікай дакладнасцю і надзейнасцю і ўдакладніць маштабы сонечнай сістэмы.

Згодна з савецкімі радыёлакацыйнымі назіраннямі, велічыня астранамічнай адзінкі, г. зн. сярэдняя адлегласць ад Зямлі да Сонца, роўна 149.457.000 кіламетрам з магчымай памылкай менш чым 5.000 кіламетраў.

Па змяненню частаты адбітых сігналаў ад Венеры ўдалося атрымаць звесткі аб яе абарачэнні. Аказалася, што рознасць радыяльных хуткасцей асобных адбіваючых участкаў паверхні Венеры прыкладна роўная 80 метрам у секунду.

(Працяг на стар. 6)




У наступныя два дні праціўнік прыкметна актывізаваўся: фашысты, відавочна, вырашылі ачысціць правабярэжжа Заходняй Дзвіны і таму ўпарта насядалі на Суражскі тракт. Ар'ергардныя часці Чырвонай Арміі стрымлівалі іх наступ спачатку пад Суражам, потым — у Казакаве, але ў канцы канцоў восьмага лютага вымушаны былі адступіць і адгэтуль. А ў паўтара кіламетра ад іх ужо наступала адборная нямецкая пяхотная дывізія.

Чырвонаармейскія абозы і артылерыя расцягнуліся па лясной дарозе, якая злучала Пудаць і Цімохі. У вёсцы заселі атрады прыкрыцця. Днём у Пудаць уварваліся фашысцкія матацыклісты, і чырвонаармейцы пачалі ва ўпор расстрэльваць іх. Бой за Пудаць працягваўся да самай ночы.

128

Партызаны адступалі апошнімі, прыслухоўваючыся, як удалечыні нарастае страляніна.

— На Веліж, відаць, нашы пойдуць. Праз лясы, — сказаў Рычард Шкрэда.

Мінай не адказаў яму. У галаве камандзіра ніяк не ўкладвалася, што іх раён зноў часова адыходзіць пад уладу акупантаў. «Дык толькі ўчора, — думаў ён, — мы вылаўлівалі немцаў, і шчасце перапаўняла нашы душы. Толькі ўчора верылі, што перамога ўжо заваявана».

Так прайшоў для яго ўвесь шлях да Вялікага Моху, дзе некалькі месяцаў назад група Міная адседжвалася ў сырой і ненадзейнай зямлянцы. Колькі выдатных таварышаў страцілі яны з тых пор!

Цімохі нагадвалі востраў: з абодвух бакоў ад вёскі ляжала труднапраходнае балота. Яно цягнулася звыш сарака кіламетраў і злучала Пудаць з Борам.

У Цімохах не затрымаліся, вырашылі ісці на Замошша.

Усю ноч атрад прабіраўся лясны-

129

мі дарогамі, і толькі на раніцу, ледзь цягнучы ногі, дапаўзлі да Другіх Нумараў.

Партызаны пачалі распрагаць коні.

— Чуеш, бацька? — аклікнуў Міная Шкрэда. — Здаецца зноў страляніна?

Камандзір зняў шапку, прыслухаўся: з усходу, з боку Веліжа даносілася глухая артылерыйская кананада. Яшчэ мацней стралялі ва Усвятах: да мястэчка адсюль усяго дванаццаць кіламетраў. Але затое паміж Веліжам і Усвятамі стаяла цішыня. Чаму? Дык там, праз Вялікі Мох, праходзіць дарога ў Цімохі, у Пудаць і ў Сураж. Няўжо фашысты ўсё яшчэ не рухаюцца па гэтай дарозе?

*

— У Замошшы, бацька, ніводнага немца, — страсаючы снег з валянак, сказаў Шкрэда.

— Значыць, і ў Цімохах іх няма? — спытаў Мінай.

— Ніводнага.

— А што ў Пудаці?

— Высветліць не ўдалося. Знаю адно: там іх гарнізон.

130

— Немцаў у нашай зоне няма?

— У лясах зусім няма, паяўляюцца толькі дробныя групы паліцэйскіх.

У нямецкай лініі фронта паявіўся пралом. Партызаны вырашылі выкарыстаць яго і перайсці на месца сваіх папярэдніх стаянак.

— Праз лінію фронта на рысаках можна ездзіць — жартавалі.

Як раз у той час са Спецыяльнага аддзела Трэцяй арміі прыехаў веставы і паведаміў, што Міная просяць тэрмінова прыехаць у Бор. Давялося неадкладна адпраўляцца ў дарогу.

Да Бору пад'ехалі ў гадзін пяць вечара. Начальнік Спецыяльнага аддзела, — нервовы, худы маёр, — сустрэў Міная ветліва, памог распрануцца і тут жа прыступіў да справы.

— Памажыце нам высвятліць асобу аднаго затрыманага намі грамадзяніна Суражскага раёна, — загаварыў ён. — Круціць, віляе, блытае. Скажыце, вы чулі такое прозвішча: Новікаў?

Новікаў? Пудацкі міліцыянер? — здзівіўся Мінай.

131



 

# ГОМЕЛЬСКІ ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ і ШКОЛЬНІКАЎ імя УЛ. ЛЕНІНА

Палац піянераў размешчаны на высокім беразе ракі Сож, у цяністым парку культуры і адпачынку, у былым палацы князя Паскевіча.

Гэты будынак з'яўляецца выдатным помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя.

У 1917 годзе тут быў абвешчаны пераход улады ў Гомелі ў рукі Саветаў. У ім змяшчаўся і першы Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У час Вялікай Айчыннай вайны будынак палаца быў разрушаны. Зараз ён адбудаваны. Палац піянераў і школьнікаў — дзіцячая пазашкольная ўстанова. Мэта і заданне яго — развіваць таленты і здольнасці дзяцей у галіне тэхнічнай творчасці, мастацтва, арганізаваць цікавы і карысны адпачынак, аказанне практычнай дапамогі піянерскім дружынам школ у паляпшэнні іх працы.



Больш трох тысяч піянераў і школьнікаў ва ўзросце ад 7 да 18 год займаюцца ў 30-ці розных гуртках Палаца. Палац піянераў — метадычны цэнтр піянерскай працы. У піянерскім кабінеце Палаца можна атрымаць кансультацыю на кожнае пытанне адносна піянерскай працы. Тут праводзяцца семінары, лекцыі, абмен вопытам старшых піянерскіх важатых, настаўнікаў і грамадскіх работнікаў, якія працуюць з дзяцьмі.

Акрамя працы ў гуртках у Палацы піянераў праводзяцца розныя масавыя мерапрыемствы такія, як ранішнікі, вечары з людзьмі розных прафесій, агляды кінафільмаў, спектакляў і лекцыі на разнастайныя тэмы.

У Палацы шырокае распаўсюджанне атрымалі завочныя формы працы: конкурсы школьнікаў на найлепшы рысунак або фотаздымак, на найлепшую забаўку - самаробку, на найлепшы куток інтэрнацыянальнай дружбы і г. д.

Многа цікавай работы для дзяцей у Палацы, аб якой мы раскажам на нашых фатаграфіях.

У харэаграфічным гуртку 400 дзяўчынак і хлапчукоў вывучаюць класічныя і характэрныя танцы не толькі народаў Савецкага Саюза, але і іншых замежных краіН.

*

Каля 100 рабят наведваюць гурток выяўленчага мастацтва, дзе яны набываюць першыя навыкі ў рысаванні.





На занятках у гуртку па машынапісу.



Члены гуртка ультракароткіх хваль (УКВ) сістэматычна падтрымліваюць двухбаковую сувязь з многімі кароткахвалявікамі свету.

з жыцця БГКТ

## НА ПРАВІЛЬНАЙ ДАРОЗЕ

У Сямяціцкім павеце існуе зараз 15 гурткоў БГКТ. Пры 6 гуртках БГКТ існуюць аматарскія мастацкія калектывы. Намаганнямі старшыні аддзела настаўніка Анатоля Мартыновіча вядуцца гутаркі на беларускай мове праз мілейчыцкі радыёвузел. Нядрэнна працавалі ўспамянутыя 6 мастацкіх гурткоў. Павялічыўся лік чытачоў беларускіх кніжак. Аддзел дапамог арганізаваць навучанне беларускай мовы ў пачатковай школе ў вёсцы Сяміхочы (беларуская мова выкладаецца тут упершыню). Па ініцыятыве аддзела былі арганізаваныя матацыклетныя курсы ў Тымянцы.

А што плануецца? Між іншым, наладзіць курсы беларускай мовы ў Вульцы Нурэцкай і Клюковічах; асобна арганізаваць курс беларускай літаратуры ў Клюковічах; вечаровыя курсы на сельскагаспадарча-юрыдычныя тэмы — у Рагачах: для некалькіх вёсак арганізаваць курс кройкі і шыцця.

Значна павялічыць лік членаў БГКТ і больш папулярызаваць «Ніву».

У месяцы лістападзе плануецца з'езд настаўнікаў з беларускага асяроддзя сумесна з усім актывам Таварыства ў павеце. План працы поўнасцю канкрэтны і рэальны.

М. Кураш

---

— Так. Вы яго ведаеце?

— Ведаў. Але ад пачатку вайны не бачыў ні разу. Здаецца, ён паспеў эвакуіравацца на ўсход. Адкуль ён узяўся тут?

— У гэтым і заключаецца пытанне. Аб эвакуацыі ён нічога не гаварыў. Наадварот, паклікаецца на знаёмства з вамі. Вы б пазналі яго, таварыш Шмыраў?

— Зразумела! Давайце яго сюды, зараз усё высвятлім.

— Можна...

І вось у пакой увялі затрыманага. Мінай ледзь не падскочыў на крэсле:

— Ды які ж гэта Новікаў? Гэта здраднік, горш самага апошняга гестапоўца, паганец з паганцаў Васька Фаменкаў!

— Не верце яму, не верце! — закрычаў да маёра здраднік. — Ён хлусіць! Так, я не Новікаў, я сапраўды Фаменкаў, але я ніколі не быў здраднікам. Я актыўны прафсаюзны работнік, і з гэтым чалавекам у нас былі сутычкі. Таму ён і мсціць мне цяпер...

Мінай ужо апанаваўся.



— Сутычкі? — паўтарыў ён. — Так, былі. Ці не на тым грунце, што ты будаваўся да вайны з казённага лесу? Раскажы лепш, гад, як ты прасіў у фашысцкага каменданта і хату, і быдла, і каб не кранаў цябе ніхто, га? Раскажы!

Фаменкаў хапіў паветра шырока адчыненым ротам. А Мінай працягваў: — Раскажы, і аб тым, як ты выдаў Абраменку, як загубіў Чапельнікава, як расстраляў Гуськова. Раскажы, і як усадзіў кінжал у спіну Дукарэвіча...

— Адкуль ты? — не вытрымаў Васіль. — Цябе ж...

— Думаў, забілі мяне? Не, рукі кароткі, гад. Гавары, што ведаеш аб маіх дзецях. Ну? Гавары, а не дык...

— Я іх не кранаў, Піліпавіч!

– Але ты арыштаваў іх! І ты ж падаслаў да маёй маці Ермачэнку! Жывыя дзеці ці не? — рука Міная пацягнулася да нагана.

— Жывыя, жывыя! — Васіль прыкрыў твар рукамі. — Я бачыў іх тыдзень таму, як уцякаў з Суража.



— А куды вы ўцякалі? Навошта? — строга спыніў яго начальнік Спецаддзела.

— Хацеў ратавацца...

Маёр павярнуўся да Міная:

— У вас ёсць яшчэ пытанні?

— Не. Усё ясна.

— Адвядзіце! — загадаў маёр канваірам.

Невысокі пажылы салдат пацягнуў Фаменкава за рукаў. Той адскочыў, затузаўся:

— Куды? Я не хачу!

— Чаго не хочаце? — не зразумеў начальнік Спецаддзела.

— Уміраць не хачу!.. Я абяцаю...

Салдат таўкнуў яго прыкладам вінтоўкі:

— Позна абяцаць. Варушыся! — і вывеў здрадніка за парог.

*

У вёсцы Антропава размясціўся штаб нашай дывізіі. Тут Мінай пазнаёміўся са смуглявым палкоўнікам.

— Чэрняхоўскі, — сказаў палкоўнік, моцна трасучы руку партызанскага камандзіра.

Мінай ад душы адказаў на яго поціск рукі.



— А сіла — та не перавялася! — засмяяўся Чэрняхоўскі. — Не дарма кажуць, што вы падковы гнеце, га?

Гэты вялікі, прыгожы і просты чалавек спадабаўся Мінаю з першай мінуты.

— Ну, што таварышы - лесавікі, — усміхаючыся, звярнуўся ён да партызан, — вырашылі зноў валацужыць? Значыць, не сядзіцца? Што ж, справа добрая. Але ўлічыце, што адгэтуль вам давядзецца дзейнічаць у не зусім звычайных абставінах. Вашыя тылы будуць сутыкацца з нашымі перадавымі часцямі. Таму важна, каб вароты, якія паўсталі ў раёне Вялікага Моху, былі і надалей адкрытымі.

— Вароты! — выхапілася ў Міная. — Сапраўды вароты на Віцебск!

— Віцебскія вароты, — з усмешкай паправіў яго Чэрняхоўскі.

Ён расказаў, як у пачатку студзеня па загаду Вярхоўнага камандавання дзве ўдарныя арміі рушылі на вызваленне Беларусі. Чырвона-

